

*Еўропу будуем разам тут!*

# ГАСЦІНЕЦ


**Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны**

**№ 2(8) Травень 2000 года**


*Рыгор Барадулін*

## ПЯЦІГОДКА РУЙНАВАНЬНЯ

Некалі камуністы плянавалі пяцігодкі й рапартавалі Крамлю пра іх выкананьне. Праўда, у народзе па-свойму ўспрымалі гэныя пяцігодкі. І пялі:

*Бруха гола, лапці ў клетку,*
*Выканаем пяцілетку.*

Усё было пабудавана на рапартах, разьмерана на пяцігодкі. І цяперашнія нэо, цяперашнія ўладатрымцы ў Беларусі могуць зноўтакі, як і ў тыя, на жаль, недалёкія гады, рапартаваць Крамлю, што пяцігодка па зьнішчэньні ўсяго беларускага, усяго нацыянальнага, пасьпяхова, нават датэрмінова выканана.

Усё беларускамоўнае выцесьнена з тэлерадыё, з прэсы, са справаводзтва, аж да шыльдаў на крамах.

Кавярні ўжо называюцца па-купецку, па-расейску. Была «Хвілінка», стала «Печки-лавочки», была «Траецкая», стала «Разгуляй», была «Тарас на Парнасе», стала «Георгиевское» — усіх заменаў не пералічыш. Прывучаюць і вока й вуха беларуса забыцца на ўсё сваё, наскае, крэўнае, каб беларус не пачуваў сябе ў Беларусі як дома.

Так званае дзьвюхмоўе нагадвае паштэт па-польску, конь з курапаткай, у якім усяго пароўну, напалову — адзін конь, адна курапатка.

Пагалоўна, павальна зачыняюцца і без таго рэдкія беларускамоўныя клясы. Усё гэта іншым словам як этнагенацыд не назавеш.

Пад час рэфэрэндуму пісаў я такую дурноту:

*Кот праводзіў*
*рэфэрэндум,*
*Клапаціўся пра мышэй.*
*Мышы верылі легендам*
*І пішчэлі ўсё цішэй.*

Пасьля рэфэрэндуму й пішчэць льга толькі па-расейску ці на трасянцы з паўночна-ўсходнім вымаўленьнем.

Пра сьцяг і казаць не даводзіцца. Падцыраваны, савецкі, некалі дазволены й зацьверджаны ў Крамлі. Хоць улада тутэйшая й спавядае панславізм, а колеры сьцягу не славянскія, я ўжо не кажу, што яны не беларускія.

*Відаць, нас мала перылі,*
*Што цягне да імпэрыі*
*Пад сьцягам*
*мусульманістым,*
*З палітбюро іваністым.*

Гэта не сакрэт, што цяперашні герб у народзе называюць «капустай». Гэта ім замянілі сьвятую для кожнае беларускае душы душы «Пагоню». А мяноўна «Пагоня» й Бел-Чырвона-Белы сьцяг асьвечаныя вякамі, амытыя крывёю прашчураў нашых у барацьбе за волю, за Беларусь непадлеглую.

Мне асабіста цяперашні герб нагадвае прычоску аднаго вядомага чалавека. Такія ўжо асацыяцыі выклікае ён у мяне. Гэта не абраза, а маё ўспрыняцьце. На асацыяцыі і ўспрыняцьце пакуль яшчэ афіцыйнае забароны няма.

Штодня, пасьпешліва, паціхоўску, нашая нацыянальная сымболіка выкарчоўваецца са сьвядомасьці. Ажно чакаеш, што неўзабаве будуць новыя ініцыятывы, па-бальшавіцку рашучыя.

*Няма сумневу,*
*Ён даўно гатоў*
*Указ чарговы,*
*Як заўсёды, сьмелы.*
*Што трэба перафарбаваць*
*буслоў,*
*Бо кожны бусел*
*Бел-чырвона-белы.*

Фарбавалі ж пры камуністах траву да прыезду партыйных паханаў...

### ЗМЕСТ


**Да 160-х угодкаў Францішка Багушэвіча. Конкурс “Не пакідайце ж мовы беларускай...”** *Стар. 2*
**Літаратурная старонка.** *Стар. 3*
**Навіны. Наша бібліятэка. Абвесткі.** *Стар. 4*


## Пад вольным сцягам

*Не затуманены прасцяг*
*Пад небам пасвятлелым.*
*З мінуўшчыны вярнуўся*
*сцяг*
***Наш бел-чырвона-белы.***
*Быў вінаваты без віны,*
*Святое-ж – не*
*запляміць.*
*І не закрэсліць даўніны,-*
***Жыве стагоддзяў***
***памяць.***
*Сцяг незалежнасці ўзнімай*
*– Мар аб найлепшым*
*цудзе:*
*Садоў, лясоў, азёраў край*
***Калоніяй не будзе.***
*Квітнейце, Захад і*
*Усход,*
*Калі квітнець у стане.*
*Нам найважней, што*
*наш народ*
***Насельніцтвам не***
***стане.***
*Пад гэтым сцягам не*
*грашы,*
*Не вер ніякім хлусам.*
*На сцягу – чысціня душы,*
***Любові беларуса.***
*Мы вольна выйшлі на*
*прасцяг*
*Пад пад шум вятроў*
*сустрэчных.*
*Наш бел-чырвона-белы*
*сцяг,*
***Лунай над намі вечна!***

**Васіль Жуковіч**

● Да 160-х угодкаў Францішка Багушэвіча

*Беларускай мове жыць,*
*Незгасальным агнём гарэць,*
*Хай яна ў сэрцы гучыць,*
*Багушэвічу нельга старэць.*

**Ірына Клюева**

# Конкурс "Не пакідайце ж мовы беларускай..."

На пачатку вясны сярод вучняў Віцебшчыны праходзіў конкурс прысвечаны памяці славутага пісьменніка, абаронцы простых людзей - Францішка Багушэвіча. Менавіта яго словы: "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!" натхняюць тысячы рупліўцаў роднага слова на самаадданую працу па захаванню і развіццю нашай матчынай мовы. Вучні Гарадоччыны актыўна удзельнічалі ў конкурсе. Найбольшую колькасць работ прадставілі вучні Езярышчанскай СШ, СШ №2 г. Гарадка, Вайханскай СШ. Сярод мастацкіх прац было шмат малюнкаў з Езярышча, а таксама высокамастацкія працы Вінаградавай Ірыны ( СШ №2, 10 кл.), Юр Кацярыны (СШ №2, 6а кл.), Волкавай Анастасіі (Вайханская СШ, 6 кл.). Ірына Вінаградава атрымала ганаровае III места сярод некалькіх дзесяткаў прац, а Каця Юр адзначана падарункам Гарадоцкай Рады ТБМ.

Вучні выказвалі свае адносіны да роднай мовы ў вершах, апавяданнях, эссэ і частку гэтых прац прапануем увазе нашых чытачоў.

## ТОЙ ЛЮД ЖЫВЕ...

Францішак Багушэвіч... Здаецца, што ў самім гэтым імені ёсць нешта, што яднае нас усіх з роднай мовай, з роднай зямлёй, з родным краем. І гэта менавіта так, бо Ф. Багушэвіч – наш першы нацыянальны паэт, як сказаў пра яго Максім Гарэцкі.

Жыццё не было ласкавым да Багушэвіча, але ён змог атрымаць някепскую адукацыю. З самых ранніх гадоў Францішак бачыў, як цяжка жыве просты люд, якія пакуты церпіць ад бяспраў'я і галечы. Можа таму і стаў ён палымяным заступнікам працоўнага народа.

Ф. Багушэвіч зрабіў пры жыцці ўсё магчымае, каб адрадзіць у людзях павагу да роднай мовы, літаратуры і культуры. Аб гэтым сведчаць яго словы: "Наша мова для нас святая, бо яна нам ад Бога даная" або "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі". Пісьменнік зліў у адно і душу людскую і дадзеную яму ад Бога мову.

Гісторыя беларускай літаратуры і памяць народа зберaглі для нас яго імя і творчасць, каб мы маглі захапляцца праўдзівасцю і шчырасцю пісьменніка, яго палымяным патрыятызмам.

Нашчадкі павінны помніць і помняць гэтага цудоўнага і шчырага чалавека, помняць тое, які уклад ён унёс у развіццё беларускай літаратуры. І сёння слушна гучаць словы Багушэвіча: "Той люд жыве, што свае песні мае."

**Наталля Лобава, 10 кл.**
**Езярышчанская СШ**

## Беларуская мова

*Мая беларуская, родная мова,*
*Якія пяшчотныя ўсе твае словы.*
*Такая ласкавая мова, як маці.*
*Ты шчасце і радасць, цяпло ў нашай хаце.*
*На ёй, задушэўнай, булькочуць крынічкі,*
*Дзяўчынкі спяваюць – збіраюць сунічкі,*
*Уздыхае тужліва пакрыўджаны бор,*
*Шуміць мілагучна ля рэчкі чабор.*
*Усё табой дыхае, мова мая,*
*Сонейка, неба і нават зямля.*
*Узгоркі, вясёлка, лугі і палеткі,*
*Рэчкі, азёры, вясновыя кветкі.*

**Наталля Шыбкова, 6а кл.**
**СШ №2 г. Гарадка.**

*Мой родны край! Адзіны мой!*
*Цябе забыць я не магу,*
*Дзе б ні жыла я, ўсё адно*
*Кажу табе:"Люблю! Люблю!:*
*Хачу туды, дзе гай шуміць,*
*Дзе сонца свеціць ў вочы,*
*І дзе заўжды я буду чуць*
*Размовы дня і ночы.*
*Туды, дзе салавей пяе,*
*Дзе рэчка хвалі гоніць,*
*Дзе васілёк ківае мне,*
*Дзе ручайкі гамоняць.*
*І дзе бярозы, як дзяўчыны,*
*Карагоды водзяць,*
*І дзе волаты- хлапчыны*
*За Радзіму – маці ходзяць.*
*Дзе шум дубровы, дзе пяе ручай*
*І льюцца дарагія словы:*
*"Мой родны край! Адзіны край!*
*Люблю тваю я мову!"*

**Алеся Цыганкова, 7 кл.**
**Вайханская СШ.**

## Беларускай мове жыць

*Пачуйце мяне усе,*
*Шануе хто роднае слова,*
*Сказаў Багушэвіч:*
*- Жыве, гучыць хай родная мова!*
*Пісьменнік пайшоў ужо ад нас,*
*А справа яго не згасла,*
*І прыйдзе той зорны час,*
*І зробіцца мова сучаснай!*

**Дарожкін Дзіма, 7 кл.**
**Езярышчанская СШ**



# Літаратурная старонка



**Вершы вучняў 3 класа Стадалішчанскай СШ, настаўніца роднага слова – Людміла Калініна.**

## Зімовы ранак

*Што за цуда на двары*
*У зімовы ранак?*
*Прыляцелі снегіры*
*Дружна на сняданак.*
*На каліне, што расце,*
*Колькі год ля плота,*
*Птушкі ягады знайшлі*
*Ды клююць з ахвотай.*

## Вясна ідзе

*Ужо чарнее белы снег,*
*Часцей смяецца сонца.*
*І футра верба апранула*
*Ды стукае ў ваконца.*
*У шэрым голлі між ялін*
*Званчэй спяваюць птушкі.*
*І промні сонца між галін*
*Аж пляскаюць у ладушкі.*
*Здаецца, крыху прыпячэ,*
*І з горак праз алешнік*
*Ручэй у рэчку пацячэ*
*І зацвітуць пралескі.*

**Вольга Прасветава**

## Усмешка маці

*Усміхніся, маці дарагая!*
*А сваці ўсмешкай усё наўкола.*
*Ад яе віхрасты снег растае,*
*І ручай няспынны заіграе сола.*
*Ад яе і водар асабісты,*
*Ад яе і капяжы заплачуць уніз.*
*І небасхіл бяздонны сіні, чысты,*
*І змоўкне ўрэшце дождж-артыст.*
*Усміхніся, маці дарагая,*
*Падаруй усмешку дабрыні.*
*Ад яе віхрасты снег растае,*
*І птушкі заспяваюць у вышыні.*
*Ад яе усё будзе светлым,*
*Добрым, радасным і ветлым.*

## Зіма

*Прыйшла ў вёсачкі зіма*
*І рэчкі ўсе скавала яна.*
*Малым у хаце не ўсядзець:*
*Няма ўжо сілы ім цярпець.*
*Бягуць на рэчку тут яны,*
*Чуваць іх галасы – званы.*
*Дзяўчынка Ірынка*
*Устала ўжо.*
*-Таксама на рэчку*
*Памчышся, няўжо?*
*Гаворыць ёй маці*
*І ў печку глядзіць.*
*Толькі Ірынка*
*З усмешкай маўчыць.*
*Ну, ладна,*
*Сяброўак бяжы дагані*
*На белым сваім*
*Хутканогім кані.*

## Надыход вясны

*Птушкі прылятаюць,*
*Ручайкі звіняць.*
*Надыход вясновы*
*Усё бліжэй відаць.*
*Ледзяшы заплачуць,*
*Кветкі зацвітуць*
*Радасцю вясновай*
*Птушкі запяюць.*
*Так на сэрцы светла,*
*Стане мне вясной.*
*Ад таго, што кветкі*
*Дыхаюць вясной.*
*Ад таго, што травы,*
*Свецяцца расой.*

**Ліза Калініна**

## Вясна ідзе

*Спяшаецца вясна па вуліцы вясковай*
*А па дарозе ручаі цякуць ракой.*
*У неба льецца песня жаўрукова.*
*Нясе яна цяпло вясны з сабой.*

**Андрэй Качанаў**

## Снег

*Падаюць сняжынкі,*
*Зайчыкам на спінкі.*
*Зайчык – зайчык, смелы,*
*Ты стаў вельмі белы.*
*Зайчык вырашыў пагрэцца,*
*І не ведаў, куды дзецца.*
*Зай пад елачку прыбег,*
*Ды й прылёг на белы снег.*

**Андрэй Лістраценка**

**Вершы вучняў Вархоўскай БШ, настаўніца роднай мовы– Валянціна Кузняцова.**

## Надыход вясны

*Весялей прыгрэла сонца –*
*І растаяў снег за раз.*
*Заспяваюць звонка птушкі,*
*І прыйдзе вясна да нас.*
*Хутка выглянуць пралескі*
*З пад коўдры зімовай.*
*Застракочуць конікі*
*На лузе зялёным.*
*Дзесьці ў небе, за гарамі,*
*Грымне першы гром.*
*І пальецца дождж вясёлы*
*Спрытным звонкім ручаём.*
*Пабягуць руччы па нівах*
*Звонка, радасна журча.*
*Знай – наперадзе чакае,*
*Нас шчаслівая пара!*

## Вясна

*Хутка прыйдзе вясна,*
*Снег растае вакол,*
*Пабягуць ручаі –*
*А жыве ўсё наўкол.*
*Промні сонца зайграюць*
*І нагрэюць зямлю.*
*Прыляцяць птушкі з выраю,*
*Крануць душу маю.*
*У небе стане святлей,*
*Запяе салавей.*
*Гэта значыць вясна –*
*На душы весялей!*

**Генадзь Дзюбкоў, 6 кл.**

## Мароз

*Ён ідзе і марозіць усё,*
*І навокал малюе цудоўна.*
*А на полі не косяць жніўё,*
*Толькі мароз трашчыць чароўна.*
*Ён малюе на вокнах лясы,*
*І ваду ператварае ў лёд,*
*І не чуваць таго паху сасны,*
*Які быў духмяны, як мёд.*

**Максім Шкрэдаў, 6 кл.**

* * *

*Над палямі і лясамі*
*Чуцен песні звон,*
*Жаваронак у небе*
*Звініць цэлы дзень.*
*Вось прыйшла вясна чаканая,*
*Прабудзіла зямельку заспаную,*
*Поле травіцай адзелася,*
*Дрэвы лісцем убраліся.*
*Свішчуць птушкі над балотам*
*Жураўлі ўгары крычаць,*
*Усё навокал прабудзілась,*
*Надышла вясна-красна.*

**Іван Косцераў, 6 кл.**

# НАША БІБЛІЯТЭКА

*Прадстаўляем кнігі, часопісы грамадскай бібліятэкі, якія зацікаўленыя чытачы могуць замовіць па кантактнаму тэлефону: 2-38-42.*

**1. Джордж Оруэл «Ферма»(аповесць), «1984».**

**2. Уладзімір Адамушка «Палітычныя рэпрэсіі 20—50-х гадоў на Беларусі».**

**3. Гарт. З успамінаў пра Саюз Беларускіх Патрыётаў (Глыбокае, Паставы. 1945—1947 гг.).**

**4. Юры Туронак «Беларусь пад нямецкай акупацыяй».**

**5. Вольга Паўлава «Шклоўскія страсці».**

**6. Сяргей Ёрш «Вяртаньне БНП. Асобы і дакументы Беларускай Незалежніцкай Партыі».**

**7. М.І. Ермаловіч «Па слядах аднаго міфа»**

**8. Генадзь Сагановіч «Невядомая вайна: 1654—1667»**

**9. Аляксандр Цьвікевіч «Западно-руссизм»: Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в.**

**10. У.М. Ігнатоўскі «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі»**

**11. "Паэма «Тарас на Парнасе»: здабыткі і праблемы»**, прысвечана другім літаратурна-края-знаўчым чытанням, з нагоды 25-х угодкаў адкрыцця Генадзем Кісялёвым асобы Канстанціна Вераніцына.

**12. «Усталяванне савецкай улады і супраціў бальшавікам на Віцебшчыне»**, прысвечана першым гісторыка-краязнаўчым чытанням, з нагоды 80-х угодкаў Веліжскага і Гарадоцкага паўстанняў.

**13. Кастусь Тарасаў "БЕЛАРУСЬ. Гістарычнае падарожжа для дзяцей"**, Мінск, "Лекцыя", "Бацькаўшчына" – 2000 год.

"Старадаўняя Беларусь знаходзіцца ў мінулым часе. Трапіць туды можна толькі ў думках. Але навошта юнаму чалавеку падарожнічаць у мінуўшчыну, калі ягонае жыццё наперадзе? З тае прычыны, што там, ў даўніне, — справы, здабыткі, страты, перамогі і паражэнні, каханне і здрады, радасць і слёзы нашых дзядоў і прадзедаў, нашы таямнічыя карані. Цікава ведаць, чаму мы нарадзіліся тут, а прыкладам, не ў Гасконіі, чаму рознімся ад суседзяў мовай і звычаямі, чаму ў нас іншыя песні, іншыя святыя і пакутнікі, іншыя героі. Будучыня прыходзіць сама, мінулае адкрываецца толькі цікаўнаму." (Кастусь Тарасаў)

Кніга знаёміць юнага чытача з галоўнымі падзеямі беларускай мінуўшчыны ад узнікнення першых гарадоў да абвяшчэння дзяржаўнасці ў 1918 годзе, з духоўнай і архітэктурнай спадчынай. Выданне аздоблена шыкоўнымі ілюстрацыямі.

*Заснавальнік: і рэдактар: Леанід Гаравы*
*Адрас: 211540, г. Гарадок, вул. Гагарына, 30-6 - 16*
*Тэл. 8-239-2-17-91*
*E-mail: gasc@gar. belpak.vitebsk. by*
*Выдадзена пры падтрымцы Віцебскага аддзялення ГА «Фонд імя Льва Сапегі»*
*Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад 290 асобнікаў*

## *АБВЕСТКІ*

***БЕЛАРУСКАЯ СЛУЖБА РАДЫЁ СВАБОДА**

| Час | Хвалі |
|---|---|
| 18.00 – 19.30 | 41, 31, 25, 19 |
| 22.00 – 23.30 | 49, 31, 25 |
| 06.00 – 07.00 | 49, 41, 31 |

**У праграме:**
... навіны зь Беларусі і ўсяго сьвету, правы чалавека, апазыцыя, улада, родная мова, эканоміка, культура, эміграцыя, праца ....

Сярэднія хвалі – 521 м (576 кгц).

Адрас: 220005, Менск-5, п/с 111.

**НАСТРОЙЦЕСЯ НА "СВАБОДУ"!**

*** Гарадоцкая Рада ТБМ** прадстаўляе сябрам дэмакратычных арганізацый, аўтарам газеты "ГАСЦІНЕЦ" **бясплатныя паслугі** па ксеракапіраванню матэрыялаў па гісторыі і культуры Беларусі, падрыхтоўцы буклетаў, візітовак.

Зацікаўленым асобам звяртацца па тэл. : 2-38-42

*** Шаноўныя чытачы газеты "Гасцінец"!**

Калі Вы жадаеце атрымліваць усе наступныя нумары нашага выдання – рабіце заяўкі па рэдакцыйнаму тэлефону.

Акрамя таго, усе жадаючыя **могуць бясплатна** атрымліваць наступныя выданні:

**"Свабоднае слова"** – дайджэст і інфармацыя (матэры-ялы недзяржаўнай прэсы);

**"Працоўная Грамада"** – грамадска-палітычнае выданне для ўсходняй Віцебшчыны.

Чытачы таксама маюць магчымасць пазнаёміцца з выданнямі НДА Віцебшчыны: **"Крэсы", "Сумежжа" (Паставы), "Рубон" (Верхнядзвінск), "Новы горад" (Наваполацак), "Орша-info" (Орша), "Кардон" (Бешанковічы).**

**Навіны Гарадоцкай раённай арганізацыі ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"**

Прыхільнікі роднага слова Гарадоччыны прынялі ўдзел у абласным конкурсу, прысвечаным 160-м угодкам Францішка Багушэвіча. Сярод больш сотні вучнёўскіх прац Дыпломам III ступені адзначаны іллюстрацыі Ірыны Вінаградавай (СШ №2) да паэмы "Тарас на Парнасе". Часткова матэрыялы конкурса прадстаўлены на другой старонцы гэтага нумара "Гасцінца".

30 сакавіка маладыя паэты – аўтары нашай газеты, прадстаўнікі Езярышчанскай, Бычыхінскай, Стадалішчанскай і СШ №2 зрабілі экскурсію у г. Віцебск. В. М. Арлоў, старшыня Віцебскай гарадской арганізацыі ТБМ правёў найцікавейшую экскурсію па гістарычнай частцы Віцебска, прадэманстраваўшы вучням унікальныя фотаздымкі архітэктурных помнікаў Віцебска. З захапленнем вучні наведалі Літаратурны і Краязнаўчы музеі Віцебска, а С.М. Дашкевіч ( загадчыца літчасткі тэатра) правяла вучняў за кулісы Віцебскага драмтэатра імя Я. Коласа, пазнаёміла з гісторыяй развіцця тэатра. Па выніках паездкі былі абмеркаваны пытанні далейшай працы з пачынаючымі паэтамі і прынята рашэнне стварыць юнацкую суполку "Парнас" у складзе Гарадоцкай арганізацыі ТБМ, а старшынёй абралі Ірыну Калініну – вучаніцу Стадалішчанскай СШ.

17 красавіка адбылася справаздачна-выбарчая канферэнцыя Гарадоцкай арганізацыі ТБМ. Прадстаўнікі 6 суполак ТБМ абмеркавалі справаздачу старшыні Рады Гаравога Леаніда, выказалі прапановы па рабоце арганізацыі. У прынятым рашэнні канферэнцыі вызначаны перспектыўныя напрамкі дзейнасці: правядзенне святочных літаратурных вечарын, друкаванне тэматычнай старонкі "Родныя вытокі" у раённай газеце; збор подпісаў у падтрымку ідэі Беларускага нацыяналь-нага універсітэта і іншыя.

На канферэнцыі выбрана Рада і рэвізійная камісія. Старшынёй арганізацыі абраны Леанід Гаравы.

10 траўня пададзены усе неабходныя дакументы ў Гарадоцкі райвыканкам для пастаноўцы на ўлік Гарадоцкай раённай арганізацыі ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны". Ёсць пэўная надзея, што рупліўцы роднага слова нашага раёна не застануцца па-за межамі закону ў сваіх справах на карысць Бацькаўшчыны.